# Наступны юбілей адзначым лепей ?

## Магілёў

Для тых людзей, што хаця б крышачку абазнаныя ў гэтай справе, ня ёсьць таямніцаю існаваньне Ўсеагульнае Дэкларацыі правоў чалавека, якая 50 год таму была прынятая, дакладней абвешчаная, ААН. Дэкларацыя ня ёсьць дакумантам нарматыўнага характару, зь якога вынікаюць пэўныя мэханізмы стасункаў між чалавекам і дзяржавай, між дзяржавамі. Палажэньні Дэкларацыі сталіся падмуркам дзеля прыняцьця міжнародных Пактаў, факультатыўных Пратаколаў, Канвэнцыяў, якія прынамсі й вызначаюць тыя рычагі, якімі можа скарыстацца чалавек дзеля аднаўленьня справядлівасьці. Што датычна самое Дэкларацыі, яна здабыла моц і вагу менавіта праз тое, што становіцца базаю дзеля стварэньня сапраўды праўных адносінаў у дзяржаве, якая далучаецца да яе.

Большасьць нашых грамадзкіх няўрадавых арганізацыяў, асабліва тыя, што спэцыялізуюца на праваабарончай дзейнасьці, ставяць сябе за мэту "спрыяць будове дэмакратычнае, прайнае дзяржавы ў Беларусі..."

Памятаючы пра мэту, гэтыя арганізацыі мусілі 10 сьнежня неяк адзначыць гадавіну такога важкага міжнароднага дакуманта. Ва ўсялякім разе веды пра значэньне Дэкларацыі варта пашыраць сярод насельніцтва, якое з-за штодзённага клопату пра хлеб нічога ня бачыць вакол і лічыць, што нічога й бачыць ня трэба...

Што ж тым часам рабілі ў накірунку прававой асьветы прадстаўнікі дзяржавы ў нашым слаўным горадзе?

У навучальных установах улады ладзілі мерапрыемствы (дзеля рысачкі), на якія запрашаліся судзьдзі (некаторыя зь якіх яшчэ ўчора выносілі незаконныя прысуды, асабліва "палітычным"), пракуроры (некаторыя зь якіх яшчэ учора не знаходзілі парушэньняў ані ў дзеяньнях міліцыі, якая незаконна хапала людзей, ані ў незаконных рашэньнях судзьдзяў, якія выносіліся на падставе міліцэйскіх пратаколаў). Вядома: тое, пра што яны апавядалі й блізка ня тычылася правоў чалавека.

Дарэчы, як распавёў адзін з удзельнікаў такой сустрэчы ў ММІ, узровень праўнае асьветы сярод першакурсьнікаў проста жахлівы. Моладзь ня ведае элемэнтарных праўных нормаў. Для іх было сапраўдным адкрыцьцём тое, што міліцыянт абавязаны прадставіцца й прад'явіць службовае пасьведчаньне, калі ён мае штось высьветліць у грамадзяніна, а тым болей, калі затрымлівае яго...

У дзень юбілею на вуліцу выйшлі актывісты абласной арганізацыі Беларускага Хельсінскага камітэта, праваабарончага цэнтра, моладзевай арганізацыі «Грамадзянскі форум», якія раздавалі мінакам ля ўнівермага й на прыпынку "пл. Леніна" нумар газэты "ТВ-каприз". У гэтым нумары былі надрукаваныя Міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, Факультатыўны Пратакол да яго, а таксама ўзор паведамленьня (скарга), зь якім можна зьвяртацца ў Камітэт ААН па правах чалавека.

Думаю, сярод тысячы чалавек, а менавіта столькі асобнікаў газэты было раздадзена, было нямала тых, хто ўпершыню даведаўся пра існаваньне такога права (!) – падаць скаргу на дзяржаву.

Актывісты Беларускага Хельсінскага камітэта распаўсюджвалі такі ж пакет дакумантаў у большасьці раённых цэнтраў вобласьці.

**Валадар ЦУРПАНАЎ**

## Горкі

Агульнавядома, што сёньняшнія беларускія ўлады надта "шануюць" правы чалавека. У гэтым годзе нават наладзілі круглагадовае шоў пад назвай "Сьвяткаваньне 50-годзьдзя Дэкларацыі правоў чалавека". У турмах і школах, у дзяржаўных газэтах і на тэлеэкране цытуюцца радкі з Дэкларацыі. Усе кіраўнікі, ад прэзыдэнта да старшыні райвыканкаму, клянуцца ў вернасьці правам чалавека. Але кожны дзень прыносіць усё новыя факты сапраўднага стаўленьня рэжыму да іх.

Напрыклад, у райцэнтры Горкі мясцовая вертыкаль даволі арыгінальна разумее агульнапрызнаныя правы. Нядаўна яна прыняла рашэньне, згодна якому любыя мітынгі і дэманстрацыі забаронена праводзіць у суботу й нядзелю. У астатнія дні чыноўнікі таксама вырашылі трымаць апазыцыянэраў у яжовых пальчатках. Мітынгаваць ім дазволена толькі на гарадзкім стадыёне, што на ўскрайку горада. А пікеты і дэманстрацыі можна будзе правесьці ўвогуле ля чыгуначнага вакзалу на Вакзальнай вуліцы, што месьціцца ў двух кілямэтрах ад райцэнтра.

Тое, што згаданае рашэньне прымалі ў разьліку на мясцовых апазыцыянэраў, неўзабаве паказаў час. Горацкія дэмакраты (а менавіта "Група падтрымкі ідэалаў адраджэньня Беларусі") двойчы падавалі за апошні месяц заяўкі на правядзеньне пікетаў. Адзін прысьвячаўся 50-годзьдзю Дэкларацыі правоў чалавека (!), а другім арганізатары хацелі выказаць пратэст супраць палітыкі лукашэнкаўскага рэжыму, які зацягвае краіну ў пастку эканамічнага і палітычнага крызісу. Натуральна, улады адмовілі. Відаць разумеючы бяссэнсоўнасьць "загарадных" пікетаў, выканкамаўцы нават не прапанавалі той Вакзальнай вуліцы.

Прадстаўнік "Групы падтрымкі..." Віктар Кралькоў заявіў, што яны ўсё роўна не спыняцца перад нахабствам прэзыдэнцкай вэртыкалі. Бліжэйшая акцыя – вечар-дыспут па актуальных грамадзка-палітычных пытаньнях жыцьця краіны. Улада запрошана да цывілізаванай спрэчкі. Толькі ці пойдзе чынавенства на спрэчку? Пакуль у іх гэта дрэнна атрымлівалася.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

**У ТЭАТРАХ**

*Магілёўскі тэатар лялек запрашае ад 22 сьнежня на Калядныя забаўкі, дзе адбудуцца імправізаваныя здымкі тэлестужкі кампаніі "Кашчэй Pictures".*

*Галоўны казачнік Беларусі Алег Жугжда запрашае ад 27 сьнежня ў абласны драматычны тэатар, дзе ён паспрабуе разгадаць таямніцу Царэўны Сьнежкі з дапамогай сьпеваў, жартаў ды скокаў вядомых казачных пэрсанажаў.*

# "Шэксьпір заўсёды дарэчы"

– сьцьвярджае кіраўнік Магілёўскага народнага тэатру, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Валянцін Ермаловіч.

– Прайшоўшы год быў багаты на творчыя здабыткі. Мы паставілі шэсьць новых спэктакляў. Яны прысьвечаныя нашай культурнай і гістарычнай спадчыне, асэнсаваньню чарнобыльскай бяды. Адна з самых значных падзеяў – спэктакаль "Дзяды" па творы вялікага Міцкевіча.

Вельмі задаволены, што ў тэатар прыйшло шмат маладых людзей. Яны прынесьлі новыя ідэі, энэргію. Зь імі зьявіўся новы імпульс для творчай працы.

Вельмі спадзяюся, што й надыходзячы год пройдзе пад знакам новых спэктакляў. Спадзяюся на тое, што ў гледачоў нашая праца сустрэне цікавасьць і запатрабаванасьць. Вельмі хачу ў будучым годзе паставіць "Караля Ліра". І яшчэ адна важкая падзея мусіць адбыцца. Мы мяркуем ажыцьцявіць пастаноўку монаспэктакля "Малітва да Калымы", прысьвечанага паэтцы Лесе Беларуске. Яна была рэпрэсаваная й паўтарыла сьмяротны лёс ахвяраў сталінскага ГУЛАГу. Спэктакаль стане невялікім унёскам, каб ушанаваць памяць Лесі, якая і ў жахлівай далечыні ад Радзімы памятала пра яе й зьберагала ў душы гэтую памяць да самага сьмяротнага часу.

*Запісаў*
**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



• *Фота IREX/ProMedia.*

# А я веру прэзідэнту !

Нейкі дужа разумны дзядзька казаў, што толькі дыета здольная зрабіць чалавека сапраўды шчасьлівым. Сябе ён лічыў абсалютна шчасьлівым чалавекам, але памёр ад дыстрафіі. Як патлумачылі медыкі, мала еў.

Калі заходжу апошнім часам у краму, то міжволі ўзгадваю гэтага дыетоляга-нябожчыка. Аўтар далёкі ад таго, каб паўтараць лёс памёрлага, і нікога да гэтага не заклікае. Але адкажыце, калі ласка, што рабіць, калі бачыш ідэальна чыстыя паліцы нашых крамаў!? Яны стогнуць па тых прадуктах, якіх каторы ўжо месяц няма і пра якія пэўныя людзі (асабліва разбэшчаныя) пачалі сьніць... Дзе вы, яйкі курыныя? Куды вас зьнеслі куркі? Дзе вы самі, мілыя куркі? Ау, масла сялянскае! Гэй, твораг з разінкамі! Адгукніцеся, сыры галяндзкі і пашахонскі (ну хаця б букавінскі)! Цукар, салодкі мой, куды цябе высыпалі?.. Сьлёзы праступаюць на вачох, калі ўзгадваеш пра ўсё гэта.

І толькі адно ратуе. Вера ў нашага прэзыдэнта. Калі ён кажа, што прадуктаў у нас хапае, у маім страўніку перастае шкварчэць, а ў роце зьяўляецца непаўторны арамат з'едзенага сыра. Калі ЁН заклікае супакоіцца і не ствараць ажыятажны попыт, у маіх вачах гаснуць галодныя агеньчыкі й яны пачынаюць ласьніцца як ад булкі з маслам. Я пачынаю верыць у "часовыя цяжкасьці" і ў "стабільную палітыку рэформ". Гэтага мне хапае на дзень. А ў наступны – новыя словы, новыя заклікі "паверце мне", са шчырай рукой на гарачым сэрцы. І мне зноў добра, есьці ня хочацца.

А нядаўна зламаўся мой тэлевізар. Я ня чуў некалькі гадзінаў прэзыдэнта. І раптам падумаў, што магчыма ЁН разам са сваёй вэртыкальлю абдурвае мяне. Вырашыў зьвярнуцца да гэтай вэртыкалі. Званю туды, сюды — няма нікога. Уся вэртыкаль маўчыць. Ну, думаю, трэба званіць на самы верх. Набіраю нумар, кажу: мне прэзыдэнта. І тут нейкі голас са слухаўкі (яўна пры пагонах) кажа: "Ды няма нікога. Адміністрацыя ўся ў чарзе па яйкі. Купляюць адпаведна нормы па адным дзясятку на чалавека". Тут я прачнуўся. Гэта ў мяне было чарговае галоднае самленьне: ні ў адной чарзе мне йзноў не хапіла, і дамоў я прыйшоў з чыстым паветрам у торбе.

Асабліва шкада нашае мясцовае кіраўніцтва. Напружаная праца ў надзвычайных штабах па абароне харчовага рынку падрывае ягоныя сілы. Акрамя таго, яны ж ня маюць часу, каб пастаяць у чарзе. Як жа тады жывуць нашы любімыя вэртыкальныя чыноўнікі на чале са сваімі старшынямі выканкамаў у такіх невыносных умовах? Адкуль бяруць прадукты, чым кормяць сем'і? Яны, відаць, увесь час перабіваюцца з чорнага чэрствага хлебу на несалодкую гарбату.

І я знайшоў выйсьце, каб зьніклі дэфіцыты, каб усім усяго хапіла. Трэба папоўніць "закрама Радзімы"! У мяне кавалачак хлебу, у вас шматочак сала, у сяброўкі ломцік сыру, у суседа лыжачка цукру, – калі ўсё гэта скласьці, то мы пераадолеем дыфіцыт, пераможам крызіс, дапаможам нашаму роднаму ЯМУ ўрэшце пабудаваць рынкавы сацыялізм. І ўсім нам тады хопіць ежы. А ці шмат трэба чалавеку для шчасьця?

**P.S.:** *Чуў, што ў намесьніка старшыні аблвыканкаму пасьля сутычнай штабной барацьбы за харчовы рынак пачаліся галодныя галюцынацыі. Перад ягонымі вачыма зіхцеў, мільгацеў, каварна ўсьміхаўся дзіўны "ядомы прадмет", страшэнна падобны на скульптурны партрэт самага адказнага ў краіне чалавека. Ягоная сырападобная галава, змазаная маслам і пасыпаная цукрам, месьцілася на вялізнай пачцы тварагу, як на кнізе, і маніла да сябе агромістай каўбаснай лапай. Супакоіць чалавека здолелі толькі, калі накармілі макаронамі, канфіскаванымі ў злачыннай групоўкі бабуль-гандлярак.*

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

<u>Ад рэдакцыі</u>. Нашыя "мэры і губэрнатары", начальнікі й іх намесьнікі, словам, уся прэзыдэнцкая вэртыкаль доўгі час упарта сьцвярджала: "Справы ідуць добра, прадуктаў хапае, падставаў для турботаў ніякіх". Магчыма, што зараз у іх ёсьць іншыя тлумачэньні сытуацыі або новыя абяцаньні. Чаму б не пацікавіцца? Праўда, мы ведаем, што патрапіць на прыём да нашага занятога начальства амаль немагчыма. Ёсьць тэлефон. Вось іхныя нумары:

– старшыня Магілёўскага аблвыканкаму **КУЛІЧКОЎ Аляксандар Мікалаевіч: 32-67-44, 31-01-50, 32-80-59.**

– старшыня Магілёўскага гарвыканкаму **СІВІЦКІ Дзьмітры Аляксандравіч: 32-67-38.**

– начальнік абласнога ўпраўленьня па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчаваньня **АДАШКЕВІЧ Уладзімер Сьцяпанавіч: 32-91-24, 32-67-89.**

– начальнік абласнога ўпраўленьня гандлю, грамадзкага харчаваньня і спажывецкіх тавараў **ЦЫКУНОЎ Міхаіл Карпавіч: 32-69-57, 32-69-92.**

– начальнік Магілёўскага гарадзкога ўпраўленьня гандлю**ЯМЦОВА Галіна Паўлаўна: 32-66-58.**


Рэдактар Генадзь СУДНІК






<u>Аналітычна-інфармацыйная газэта,</u>
<u>заснаваная Магілёўскай гарадзкой асацыяцыяй</u>
<u>"КОЛА СЯБРОЎ".</u>

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газэта выходзіць шточацьвер.



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



ТЭЛЕФОНЫ:

31-04-15, 22-97-82.

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.Свярдлова. Замова 10. Наклад 500 асобнікаў.